*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

25(81)

24 чэрвеня
1992 г.

Кошт 20 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



## ПОСТУП ТЫДНЯ

***СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НАВЕДАЎ ГРОДНА,** дзе сустрэўся з загадчыкамі аддзелаў народнай адукацыі і культуры гаррайвыканкамаў вобласці, рэктарамі ВНУ, кіраўнікамі музеяў, з якімі абмеркаваў іх праблемы. Размова ішла аб фарміраванні ў рэспубліцы нацыянальнай сістэмы адукацыі і сучаснай культурнай палітыкі.*

***СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ НАВЕДАЎ З ПРАЦОЎНЫМ ВІЗІТАМ ШВЕЙЦАРЫЮ.*** Ён выступіў перад удзельнікамі пленарнага пасяджэння чарговай сесіі Міжнароднай арганізацыі працы, а таксама сустрэўся з прадстаўнікамі ААН і буйнейшых кампаній і банкаў Швейцарыі, прыняў удзел у рабоце сімпозіума «Еўрапейскі Дом».

**ДЗЕВЯЦЬ СПЕЦЫЯЛІЗАВАНЫХ ФІРМ ПА ВЫПУСКУ КАШТОЎНЫХ ПАПЕР — З ІТАЛІІ, АНГЛІІ, ФРАНЦЫІ, ДАНІІ, ШВЕЦЫІ І ІНШЫХ КРАІН ПРАДСТАВІЛІ ДЗЯРЖЗНАКУ СВАЕ МАКЕТЫ БЕЛАРУСКАГА ПАШПАРТА.** У хуткім часе дзяржаўнай камісіяй будзе выбраны лепшы варыянт дакумента, а з 1 студзеня будучага года мяркуецца выдаць кожнаму грамадзяніну РБ новы пашпарт.

***ПЕРШЫ ВЫПУСК МАШЫНІСТАК,** якія валодаюць навыкамі справаводства на беларускай мове, адбыўся ў Гродзенскім міжшкольным вытворчым камбінаце № 1.*

**ПАМІЖ ГОМЕЛЕМ І ВАРШАВАЙ** адкрыты прамы чыгуначны шлях. Такі ж маршрут быў 74 гады назад.



## Я ВЕДАЮ РОДНУЮ МОВУ НА «5» —

### *так могуць сказаць шэсць з кожных дзесяці вучняў Ганны Мікітаўны Казлоўскай*

А астатнія чатыры? На 4. Паперы строгіх інспекцый не дадуць зманіць.

Што яна — педагог ад Бога, я пераканалася на першым жа бацькоўскім сходзе (дарэчы, сходы, якія праводзіць Ганна Мікітаўна, нагадваюць эстрадны «агеньчык» ці фальклорныя вячоркі). Дык вось, на тым першым сходзе кожны вучань быў узнагароджаны за добрае чытанне, рашэнне задач, паводзіны. Для самога віноўніка ўрачыстасці не так ужо важна, за што ўзнагароджваюць. Галоўнае, што ты, сямігадовы хлапчук, нечага варты. І гэта прызнае не сябар па футбольнай тусоўцы, а самая строгая твая настаўніца. Калі не верыце, вось вам ганаровы ліст, у якім — подпісам дырэктара! — сцвярджаецца, што ты — Саша, Ігар, Максім — нечым добрым вылучыўся ў гэтай чвэрці.

Мяне такія адносіны да дзіцяці проста ашаламілі, бо я ўжо мела сумны вопыт узаемаадносін з педагогамі свайго старэйшага сына. Тут жа быў не бацькоўскі сход, на якім дзесяць разоў мароз па скуры прабяжыць ад чарговай порцыі выкрывальніцтва заганаў і няўдзячнасці твайго дзіцяці, а ўзнёслая ўрачыстасць з нагоды персанальных поспехаў кожнага вучня.

Чатыры гады хадзілі ў школу вучні Ганны Мікітаўны так, як ходзяць на любімы фільм. У іх настаўніцы няма няздольных вучняў. Самы слабы з іх выніковую работу за пачатковую школу напісаў усяго з адной памылкай.

Клас Ганны Мікітаўны быў першым беларускамоўным у 153-й сталічнай школе. І першым стаў не толькі па ліку. Творы дваіх яе вучняў упершыню ў гісторыі школы надрукавала «Вясёлка». У конкурсе да стагоддзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча іх спектаклю не было канкурэнтаў. Па выніках раённага агляду чацвёртых беларускіх класаў яны сталі пераможцамі. Дзіва што: кожны чацвёрты ў класе — выдатнік. І кожны — непаўторная асоба са сваім незалежным мысленнем і годнасцю ў іскрыстых вачанятах.

**Валянціна АРЛОВА.**
**Фота Уладзіміра ПАНАДЫ.**

## ЗВАРОТ

### да кіруючых работнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ рэспублікі

**У Пастанове рэспубліканскай канферэнцыі «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь», якая прайшла ў Мінску 15 мая г. г. з удзелам адказных работнікаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання рэспублікі, прадстаўнікоў грамадска-палітычных і культурна-асветных арганізацый, творчых саюзаў, работнікаў розных галін сацыяльна-культурнага комплексу Беларусі, а таксама ў шэрагу артыкулаў і выступленняў у сродках масавай інфармацыі, зваротах у органы дзяржаўнай улады і кіравання грамадскіх арганізацый і асобных грамадзян, тым лікам і выкладчыкаў, студэнтаў ВНУ рэспублікі, настойліва ставіцца пытанне аб стане і перспектывах развіцця навучальна-выхаваўчага працэсу і даследчыцка-навуковай дзейнасці ў вышэйшай школе Беларусі. Выказваецца думка, што ВНУ рэспублікі павінны стаць сапраўды нацыянальнымі цэнтрамі інтэлектуальнага жыцця Бацькаўшчыны, рэальна спрыяць станаўленню нацыянальнай сістэмы адукацыі, навукі і культуры ў адпаведнасці з арт. 9 Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь і законамі рэспублікі аб адукацыі і аб мовах.**

**Разам з тым, у сувязі з наданнем статусу універсітэтаў (акадэмій) шэрагу былых галіновых навучальных установаў рэспублікі, а таксама ў выніку разбурэння сістэмы адукацыі былога СССР і заканамернай адмовы ад сфармаванай ёю канцэпцыі развіцця і дзейнасці вышэйшай школы Беларусі рэальна паўстала пытанне аб яе месцы і ролі ў структуры сістэмы адукацыі рэспублікі.**

**Камісіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны створана рабочая група з ліку народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, выкладчыкаў шэрагу ВНУ г. Мінска, работнікаў іншых галін сістэмы адукацыі па вывучэнні пытання аб мэтазгоднасці правядзення карэннай рэформы навучальна-выхаваўчага працэсу і навукова-даследчай дзейнасці і звязанай з гэтым рэар-**

*(Заканчэнне на с. 2).*

**WIS**

***16 мая «Выбранецкія шыхты» правялі чарговую фальклорна-танцавальную вечарыну. У ёй бралі ўдзел госці з Латвіі — гурт «Аўры», а таксама беларускія калектывы — «Голас», «Ліцвіны», «Дзянніца», «Камэлот». Прысутныя пазнаёміліся з латышскім фальклорам, павучыліся танцаваць народныя танцы.***

## З рэдакцыйнай пошты

# Настаў час практычных дзеянняў

**ПРАЧЫТАЎ допіс «Адзін — не лічачы суседа» («Наша слова», № 15), у якім У. Шапашнікаў з Ганцавіч бядуе, што ён — адзіны ў паселішчы, хто свядома карыстаецца беларускай мовай, і таму адчувае адзіноту ў акружэнні рускамоўных традыцый. У сувязі з гэтым я хачу праз «Н С» звярнуцца да Уладзіміра Шапашнікава.**

**Паважаны сп. Шапашнікаў! Вось прачытаў Ваш допіс і адразу ўзяўся за пяро. Калі чуеш голас такіх людзей на Беларусі, маладых і разумных, становіцца спакайней за яе лёс. Непакоіць тое, што вы на грані адчаю. Я хацеў бы падтрымаць Вас душэўна і выказаць меркаванні адносна вашых некаторых выказванняў. Справаводства на рускай мове і рускамоўная школа — гэта дрэвы, пасаджаныя многа год таму назад так званымі інтэрнацыяналістамі, праціўнікамі нацыянальнай культуры. Гэтыя дрэвы вялікія і магутныя, але толькі на першы погляд, бо — старыя, аджываюць свой век. Вы ж — саджайце маладыя. Вы ўжо пасадзілі адно дрэўца — прынцыпова загаварылі на роднай мове. Не трэба думаць, быццам «ніхто не жадае згадаць, што ён беларус і ёсць свая беларуская спадчына». Пэўна, многія згадаць гэта ў душы жадаюць, ды не ўсе гавораць аб гэтым уголас, не ўсе ўмеюць і адважыліся. Нарэшце, іншаму чалавеку не хапае штуршка, іскры, дапамогі. А вось такі, як Вы, можа дапамагчы яму. Размаўляйце заўсёды на мове беларусаў — Вы дапаможаце хоць некаторым людзям вярнуцца да сваё культуры і тым самым зробіце вялікую справу. Пазбавіцца адзіноцтва і знайсці аднадумцаў Вы проста будзеце вымушаны. А зрабіць гэта можна, дзякуючы канкрэтным справам. Напрыклад, распаўсюджваннем падпіскі на «Наша слова», пра што Вы самі здагадаліся, — бо, не чытаючы пастаянна яго ці іншае беларускамоўнае выданне, людзям значна цяжэй стаць нацыянальна свядомымі. Дарэчы, слабым месцам сённяшняга беларускага Адраджэння з'яўляецца тое, што патрыятычныя беларускамоўныя газеты і часопісы не даходзяць да кожнага беларуса. Падумайце: «Наша слова» мае наклад 7152 паасобнікі! Гэта мізэр. А тым часам беларускаму селяніну падсоўваюць «Белорусскую ниву». Відаць, у вас няма суполкі ТБМ? Калі гэта так, яе трэба стварыць. Няхай туды ўвойдуць нават людзі, якія пакуль не валодаюць беларускай мовай, але жадаюць ёй навучыцца. А ў настаўнікаў беларускай мовы, пэўна, многа цяжкасцей. Сустрэньцеся, парайцеся, упэўнены: сярод іх вучняў многа патрыётаў зямлі нашай. Ідзіце з дабром, з ласкаю, тлумачце моладзі, чаго яна не разумее. Не трэба нікуды ўцякаць на радасць каму-небудзь. Ваша настойлівасць прынясе плён, а Вам — задаволенасць і прызнанне.**

**Прабачце, калі мой тон здасца павучальным, я ж па прафесіі настаўнік. Я ўжо ў гадах: маладосць мая прыпала на расквіт «інтэрнацыяналізму» ў СССР. Вось зараз і жыву далёка ад Беларусі. Але чытаю «Наша слова», «ЛіМ». Згодзен з ідэяй беларускіх патрыётаў, але зараз кожны патрыёт можа далучыцца да ТБМ, падтрымаць БНФ. Зараз наступіў час аб'яднання і практычных дзеянняў у абарону нацыі. Яшчэ раю Вам звярнуцца да артыкула «Толькі змаганне» Ігара Вашкевіча («Н С», № 11, 1992). Хоць і не з усімі прапановамі можна згадзіцца, але дух і напрамак правільны.**

**К. ЛУСТАЧ.**
**пас. Умба Мурманскай вобл.**

# Сачыненне пішуць пачаткоўцы

Відаць, для трэцякласнікаў Зацітаваслабадской пачатковай школы Пухавіцкага раёна крыху нечаканай была тэма чарговага сачынення: «Навошта нам патрэбна родная мова?»

...Яшчэ і цяпер не ўсе дарослыя могуць дакладна акрэсліць сваё стаўленне да матчынага слова. А іншыя і зусім аб гэтым не задумваюцца. Маўляў, ці ў слове справа. А як жа тады пачуццё годнасці, гонар, свядомасць?.. Пра гэта і ўспомнілі вучні пачатковай школы вёскі Зацітава Слабада, якая мае багатую гісторыю. Неаднойчы госцем вяскоўцаў быў Якуб Колас. Многія мясцовыя жыхары і зараз памятаюць, як паэт збіраў у ваколіцах грыбы, аглядаў жытнёвыя палеткі.

Цікавая і мова ў слабадскіх людзей. **Пшанічныя дровы, маркач** і **маркачка** (гэта пра барана і авечку), **чачотка** (каржакаватая бяроза) — гэтыя і многія іншыя словы і зараз жывуць у гаворцы пажылых вяскоўцаў. А мянушкі, прозвішчы, назвы навакольных мясцін — ляскоў-пералескаў, ручаёў, лужкоў... Праўда, цудоўныя моўныя скарбы губляюцца ў звыклай ужо «трасянцы».

...Навошта нам патрэбна родная мова?

І вось што адказваюць на гэтае пытанне зацітаваслабадскія школьнікі.

Алёша Корань: «Мы — беларусы. Наша Радзіма — Беларусь. Вывучаць родную мову трэба не толькі для таго, каб добра размаўляць на ёй, але і для таго, каб бліжэй пазнаёміцца з Радзімай...»

Праўда, цікавая выснова?

Аксана Парфёнак: «Першае слова ў жыцці мы пачулі беларускае... Нашы прадзеды вывучалі родную мову. Янка Купала пісаў вершы па-беларуску. Янка Маўр таксама пісаў беларускія творы. Але гэта было вельмі даўно...»

Аксана яшчэ не ведае, якія пакуты вытрымала наша родная мова. І што прадзеды нашыя проста жылі, існавалі ў слове, са словам. Таму яно і не згублена да сённяшніх дзён, не страчана канчаткова.

Чытаю старонкі, напісаныя Воляй Шаманскай, Воляй Шышко, іншымі трэцякласнікамі. Відаць, яны ўпершыню задумаліся над складаным, няпростым пытаннем: «Навошта нам патрэбна родная мова?»

Бяда і гора ў тым, што нам даводзіцца ўгаворваць дзетак вучыць сваю родную мову, нібы чужую, замежную мову. А не рабіць гэта — нельга.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ЗВАРОТ

## да кіруючых работнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ рэспублікі

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).*

**ганізацыяй БДУ з мэтай пераўтварэння яго ў сапраўды нацыянальна-дзяржаўную ўстанову ў адпаведнасці з роляй і месцам БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА універсітэта ў сістэме айчыннай адукацыі, а таксама ў далейшым напрацоўкі канцэпцыі развіцця вышэйшай школы рэспублікі. Дзейнасць рабочай групы па выпрацоўцы матэрыялаў па рэфармаванню БДУ мяркуецца падагуліць да канца чэрвеня г. г. і ў адпаведнасці з рашэннем Камісіі Вярхоўнага Савета падрыхтаваныя ёю матэрыялы і праекты дакументаў вынесці на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пры абмеркаванні пытання аб ходзе выканання Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. У далейшым цяперашні склад рабочай групы мяркуецца пашырыць і накіраваць яе дзейнасць у інтарэсах рэформы ўсёй вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь.**

**Звяртаемся да кіруючых работнікаў розных устаноў, да выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ з заклікам усяляк спрыяць дзейнасці рабочай групы па падрыхтоўцы адпаведных матэрыялаў, прадастаўляць неабходныя звесткі, уваходзіць з прапановамі з той мэтай, каб сумеснымі намаганнямі дабіцца ажыццяўлення азначаных вышэй мэт.**

**Каардынаты рабочай групы: 220016 г. Мінск, Вярхоўны Савет, Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Тэл. 29-34-00. Кіраўнік групы прафесар Мікалай Іванавіч Савіцкі. Тэл. 21-71-50.**

**Рабочая група Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.**

*Канферэнцыі*

# ДЗЯРЖАВА ПАДТРЫМАЕ БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

***Сёння ў рэспубліцы выходзіць 565 газет і часопісаў. З іх толькі 138 на беларускай мове. Астатнія — або двухмоўныя, або рускамоўныя. Міністр інфармацыі адзначыў, што першачарговую падтрымку грашыма і паперай будуць мець беларускамоўныя выданні. У прыватнасці, ужо зараз дзевятнаццаць з іх (у тым ліку і «Наша слова») становяцца прыярытэтнымі. Гэта адносіцца і да літаратурна-мастацкіх часопісаў, сабекошт якіх ужо сёння ў дзесяткі разоў перавышае цану нумара. Прыярытэтным правам будуць карыстацца і выданні на мовах нацыянальных меншасцей, напрыклад, на польскай мове.***

Нядаўна прайшла прэс-канферэнцыя міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоля Бутэвіча. Газеты, радыё далі кароткую інфармацыю пра тое, што для ўсіх выданняў будуць створаны роўныя эканамічныя ўмовы.

Асобна абмяркоўвалася работа тэлебачання, якое пакуль што нельга назваць беларускім, бо час яго вяшчання ў эфіры складае ўсяго чатыры з паловай гадзіны, астатні ж час займаюць перадачы, што не маюць ніякіх адносін да жыцця рэспублікі. У бліжэйшы час беларускае тэлебачанне павінна перайсці на першую праграму. Змена прыярытэту дапаможа сустракацца з нашым тэлебачаннем беларусам і з Беласточчыны і з Віленскага краю.

Але ж каб наша тэлебачанне сапраўды загаварыла на роднай мове — патрэбна мяняць і кадравую палітыку, рыхтаваць нацыянальна свядомых спецыялістаў. Першыя крокі ў гэтым накірунку ўжо зроблены. Акадэмія мастацтваў пачынае рыхтаваць кадры для нацыянальнага тэлебачання.

Гаворка на прэс-канферэнцыі ішла і пра тое, што ў дзейнасці ўсіх інфармацыйных структур цалкам адсутнічае заканадаўчая база. Няма законаў аб друку, аб тэлебачанні і радыё. Ёсць толькі праект закона аб выдавецкай дзейнасці. Будучыя прававыя акты, канешне ж, «народзяцца» ў кабінетах Міністэрства інфармацыі. Але, як запэўніў Анатоль Бутэвіч, прыслухаюцца наверсе і да думкі творчых работнікаў, газетчыкаў усіх узроўняў. Хацелася б спадзявацца, што разуменне прыярытэтнасці беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі знойдзе ўрэшце заканадаўчую падтрымку.

Прэс-канферэнцыя паказала, што да кагорты барацьбітоў за адраджэнне нацыянальнай мовы і культуры ўслед за інтэлігенцыяй далучаюцца і «дзяржаўныя мужы».

**А. КУТ.**

# Галоўнае — адрадзіць памяць пра сваіх абаронцаў і святых

*Прачытаў артыкул-успамін «Памяць — незагойная рана» («НС», № 18), які мяне вельмі ўсхваляваў. І вось пра што ў сувязі з ім падумаў: у нас зараз шмат гаворкі пра Адраджэнне. У прыватнасці, пра рашучае адраджэнне мовы, былога правапісу, забытых слоў, назваў. Але ўсё-такі самае галоўнае ў іншым. Яно ў тым, каб адрадзіць імёны людзей, якія, не шкадуючы жыцця, змагаліся за Беларусь. Імёны тых, хто загінуў ці пакутаваў за яе. Лічу, што толькі нацыя, якая шануе загінуўшых сваіх абаронцаў, як святых, нацыянальных пакутнікаў выхоўвае новых змагароў за гонар і веліч нацыі, множыць іх шэрагі. А тыя, хто забывае сваіх абаронцаў і святых, самотна працягне нейкі час як чыйсьці «малодшы брат» і знікне ў нетрах гісторыі, пакінуўшы па сабе, можа, толькі анекдоты ў народаў-суседзяў. Таму лічу, слушную распачала газета справу адраджэння не толькі мовы, але і добрай памяці тых, хто быў закатаваны толькі за тое, што хацеў, каб жыла Беларусь. Няхай Вам дапаможа Бог!*

**Г. СТЭЛЬМАХ.**
**г. Полацк.**

# Для грошай — свае назвы

Ужо зразумела, што праз некаторы час Беларусь будзе мець уласную валюту. Не трэба, аднак, глядзець на гэта толькі як на мерапрыемства на ахове мясцовага рынку спажывецкіх тавараў. Грошы павінны адлюстроўваць і нашу ўласную гісторыю. Таму неабходна больш грунтоўна абдумаць і іх назву. Не трэба выдумляць або запазычваць з замежжа. Для чаго, калі ёсць гістарычная спадчына?

**Аляксей БРУЙ.**
**г. п. Гарадзея.**

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—24).*

— ...Я прачытау вашы матэрыялы, але ўсё ж так і не зразумеў, што ад мяне патрабуецца. Тут не сфармулявана праблема.

(— Праблема — гістарычны лёс беларускай мовы, яе сучасны стан, перспектывы... Ваша ўспрыманне пададзеных мной фрагментаў... Можа б вы напісалі мне некалькі слоў, ці я б вас з аловачкам наслухаў...)

**развіццё, росквіт** кожнае мовы і культуры. І гэты працэс трэба не тармазіць ці пакідаць самацёк, а падтрымліваць. Высокаінтэлігентныя нашчадкі змогуць з усяго моўнага і культурнага багацця народаў узяць самае істотнае, адпавядаючае іх запатрабаванням.

Часта, калі заходзіць гутарка аб адзінай мове Зямлі, гавораць, што такой мовай будзе руская ці англійская.

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# *З «падпольнай» кнігі*

— Я к этой проблеме не хочу иметь никакого отношения!.. Я не хочу быть к этому делу причастен ни в коей мере...

То, что здесь делается упор на национальные чувства — это попахивает национализмом...

То, что «мова вечная» — это попахивает антимарксизмом...

Это — надуманная проблема!..

Вот, скажем, особенности беларускай мовы — это проблема. Проблема словарного состава... Сколько, например, общих слов в белорусском и русском языках — это проблема...

Считайте, что я ничего не читал и что мы с вами ни о чём не говорили.

Кому передать ваши материалы?..

**(Паміж 40 і 50, беларус, вясковы настаўнік з Мядзельшчыны)**

Выказванні пра беларускую мову ў «падборках» і бытуючыя погляды прагматыкаў канфліктуюць. Прагматык кажа: навошта беларуская мова, толькі час на яе вывучэнне траціць?

— дзяржаўнай яна не стала — заменена рускай;

— у навучальных установах яе не ўчуеш; карыстаюцца ёю толькі на вёсцы, ды і там моладзь па-руску спрабуе размаўляць. З адукаваных людзей толькі моваведы і літаратары ёй карыстаюцца, бо гэта іх хлеб, а радыё, часопісы і газеты — па палітычных меркаваннях — каб БССР членам ААН засталася. Прагматык кажа — не трэба мова, бо няма з яе выгады.

Тут варта, мне здаецца, прыгадаць біблейскую прытчу, дзе сказана, што «не хлебам адзіным жывы чалавек». Да мовы, як і да культуры наогул, нельга ставіцца з меркай мешчаніна: выгадна ці не. Мова — гэта душа народа, і тут шукаць выгады — гэта блюзнерства над самым запаветным.

Вышэйшая форма грамадства — камунізм — можа быць пабудавана толькі высокакультурнымі, усебакова адукаванымі і выхаванымі, інтэлігентнымі ў шырокім плане, працавітымі людзьмі, уся дзейнасць якіх будзе характарызавацца высокім гуманізмам і эстэтычнасцю. Апорай душы чалавека камуністычнага заўтра будзе прыгожае. Эмацыянальны бок людзей павінен бесперапынна расці, шліфавацца.

Усё развіваецца ў выніку барацьбы. Такой барацьбой, на маю думку, павінна быць не выцясненне і падаўленне адной мовы ці культуры другой, носьбіт якой больш шматлікі ці займае зручнае становішча... а ўсебаковае

А ці ўсё дасканала ў гэтых мовах? Я не спецыяліст, сцвярджаць штосьці акрэсленае ў карысць аднае ці другой не буду, але ў адным пераконаны, што мова Зямлі павінна ўзяць ад **кожнай** мовы свету яе самае адшліфаванае, прыстасаванае, удасканаленае... З тае далечыні, з «лесу» агульначалавечае мовы і духу будзе добра відаць каштоўнасць, сацыяльна-духоўны сэнс кожнага нацыянальнага моўнага «дрэва»...

А зараз... Цяпер, калі гэты этап не наступіў, людзі, якія забылі сваё мінулае, сваю культуру, сваю мову, ператвараюцца ў табун, які жадае толькі аднаго — набіць бруха або кішэню.

На голым, забруджаным, вытаптаным месцы не вырасце замілаванне да прыроды. Хто не палюбіў дрэва ля хаты — не зразумее прыгажосці прыроды ў цэлым. Хто не любіць бацькоў, блізкіх — не зможа быць гуманістам. Без ведання свайго нацыянальнага гераічнага мінулага хіба магчыма воінская мужнасць і грамадзянская доблесць? Хто кінуў сваю мову і культуру — не зможа ўсеабдымна і глыбока зразумець душу другіх народаў.

Усё лепш відаць у параўнанні. Возьмем літоўцаў, латышоў. Яны цвёрда трымаюцца сваёй мовы і культуры. Да другіх моў і культур яны ставяцца з разуменнем, паважаюць іх, бяруць з саюзнае і сусветнае скарбонкі ўсё лепшае, перакладаюць на сваю мову, надаюць яму нацыянальны каларыт і карыстаюцца. Гэтак жа робяць і другія народы. Чаму беларусы павінны быць белай варонай?

Іншы раз кажуць, што цяпер раздарожжа, беларусы пацерпяць без роднае мовы. Затое ў будучым выйграюць беларусы, калі запануе руская мова... Тут вее рэлігійным містыцызмам... цяпер пацярпім — а ў раі «воздастся». Я лічу, што **цяпер** трэба даць чалавеку ўсё, што яму **зараз** патрэбна, не адкладаючы на будучае.

**(Паміж 30 і 40, беларуска, мовазнаўца)**

Беларуская мова... родная мова... Яе не трэба абараняць, але шанаваць трэба. Яна, як і кожная з'ява прыроды — дрэва, кветка, мае права на жыццё і жыве. Мы яе чуем на вуснах старых дзядоў і бабуль, на вуснах малалетак і маладзіц. Гэта — сакаўная мілагучная і магутная мова. Слова яе перадае ўсё, што трывожыць і радуе чалавека, усё, чым жывіцца і чаго прагне яго душа. Але яна здатная і да навукі, да высокіх матэрыяў розуму. Яна добра паслужыць і адукаванаму чалавеку, калі ў яго чуйнае вуха...

*(Працяг будзе).*

## *МАМА, ПАЧЫТАЙ!*

*Максім ТАНК*

### Ехаў казачнік Бай



*— Ехаў казачнік Бай*
*Цераз сёлы і гай.*
*Баіць ці не?*
*— Бай!*

*— Ён пытаўся ў мяне,*
*Што даць дзецям у сне?*
*Баіць ці не?*
*— Бай!*

*— Я прасіў: дзецям дай*
*Казку-песеньку, Бай!*
*Баіць ці не?*
*— Бай!*

*— Казку,— кажа,— я дам,*
*Толькі выберу сам.*
*Баіць ці не?*
*— Бай!*

*— А найлепшую з іх*
*Дам для самых малых.*
*Баіць ці не?*
*— Бай!*

*— Тым, хто любіць мяне*
*І хто першы засне.*
*Баіць ці не?*
*— Не!*

### Пудзіла

*— Ой, дзяўчаткі, што рабіць,*
*Як каноплі бараніць*
*Ад вераб'ёў?*

*— Пастаў, Янка, свой кіёк,*
*На яго надзень мяшок.*
*— Усё роўна лятуць!*

*— Дай пудзілу памяло,*
*Сваю шапку — на чало!*
*— Усё роўна дзяўбуць!*

*— Зрабі з лыка добры лыч,*
*Люльку ты яму пазыч!*
*— Не баяцца!*

*— Ну дык сам тады вясной*
*На канаплішчы пастой.*
*— Вераб'і ўцяклі!*





*Васіль ЗУЕНАК*

### У мяне на агародзе

*У мяне на агародзе*
*Пяць жырафаў узыходзіць,*
*Леапард пусціў карэнне,*
*Раскусціліся алені,*
*Слон пайшоў дзябёла*
*ў ствол,*
*Кобра сцелецца на дол,*
*Зацвітае бегемот —*
*Развясёлы агарод!..*

*Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ*

### Гусак-фігурыст



*У гусака ад рання*
*Фігурнае катанне.*
*Паставіў ён пласцінку —*
*Вясёлую «Калінку».*
*— Танцуе хвацка, гляньце,*
*Як на чэмпіянаце,—*

*Дзівуюцца глядачкі —*
*Чубаткі, гускі, качкі.*
*— Трайное робіць сальта.*
*Узнагародзіць варта.*
*— Выдатны фігурыст.*
*— Гусак у нас артыст!*

## З гісторыі беларускага партрэта

«Тое, што вы прачытаеце ў гэтай кніжцы — толькі частка не напісанай яшчэ гісторыі беларускага партрэта. Як і іншыя жанры выяўленчага мастацтва Беларусі, ён вывучаны недастаткова, каб можна было ўзяць на сябе смеласць разгарнуць перад чытачом цэласную панараму развіцця партрэта за тыя стагоддзі, што ён існуе на нашай зямлі. «Мы раскажам, што стаяла ля яго вытокаў, чаму менавіта XVI — XVII стст. з'явіліся перыядам росквіту партрэта, як грамадскія і палітычныя ўмовы ўплывалі на яго жыццядзейнасць»,— так пішуць Юрый і Аляксей Хадыкі ва ўступным слове да сваёй кнігі «Непаўторныя рысы», якая выйшла ў выдавецтве «Навука і тэхніка».

Кніга складаецца з раздзелаў «Старадаўнія партрэты — позірк у мінулае», «Подых бурлівых часоў», «Мецэнаты і рыцары. Вытокі беларускага партрэта сармацкага тыпу», «Эпоха росквіту сармацкага партрэта» і «Пошукі новага жывапіснага стылю».

Сармацкі партрэт — адна з самых выдатных старонак беларускага мастацтва. У XVI — XVII стст. ён быў шырока распаўсюджаны не толькі ў Беларусі, Польшчы, Літве і на Украіне, але і ў іншых славянскіх краінах. Знаёмячыся з творамі тых далёкіх часоў, можна адчуць душой эпоху, адчуць яе дух, настолькі адлюстравана мастакамі жыццё нашых продкаў. У кнізе шмат ілюстрацый (праўда, ім бракуе якасці), і думаецца, што гэтая кніга можа служыць для ВНУ Беларусі добрым падручнікам па гісторыі беларускага мастацтва. На жаль, хоць у анатацыі і напісана, што кніга «разлічана на шырокае кола чытачоў», наклад яе зусім мізэрны — 1120 паасобнікаў.

**В. Ш.**

## «Тэатральная Беларусь»

Чытачы не так даўно атрымалі трэці нумар часопіса «Тэатральная Беларусь», пазначаны маем — чэрвенем гэтага года. У ім надрукавана некалькі цікавых літаратурных твораў, у прыватнасці сатырычная камедыя-плакат у адной дзеі і дзвюх карцінах «Незвычайныя пацыенты» Алеся Махнача, трагіфарсавая замалёўка ў адной дзеі «Чарга» Яўгена Міклашэўскага і п'еса ў адным акце «Заручыны Паўлінкі» вядомага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча. Тут жа змешчана падборка фотаздымкаў з архіва Сяргея Панізьніка, спалучаных з імем Францішка Аляхновіча, якое пасля доўгага забыцця нанава адкрываецца для чытачоў і гледачоў.

«Цяга да драматургіі жыла пастаянна» — гутарка крытыка Алеся Марціновіча з пісьменнікам Іванам Чыгрынавым. Сумную гісторыю Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, які воляю лёсу апынуўся на вуліцы, распавядае ў сваім невялікім артыкуле «Смех скрозь слёзы» Тамара Гаробчанка. Другі яе артыкул «Не саромцеся беларускасці» — рэцэнзія на кнігу добра вядомага на Беларусі журналіста і паэта Георгія Валкавыцкага «Віры. Нататкі рэдактара». «І мроіцца вёсачка, рэчка Дзісёнка...» — публікацыя Барыса Бур'яна пра творчасць народнага артыста Беларусі Паўла Дубашынскага. Пра тое, як святкуюцца калядкі ў Давыд-Гарадку, чытачы даведаюцца з невялікай нататкі Яўгена Адамовіча «Давыдгарадоцкія калядкі». «Жыццё, аддадзенае сцэне» — некалькі штрыхоў да творчага партрэта народнай артысткі Беларусі Ларысы Памнееўны Александроўскай. «Знаёмцеся: ансамбль «Спадчына» — невялікая нататка Людмілы Ляонавай пра творчую дзейнасць пакуль што малавядомага ў нас фальклорнага калектыву, створанага пры гарадскім Доме культуры Дзяржынска.

У мастацкім афармленні часопіса выкарыстана шмат ілюстрацый, фотаздымкаў.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**



# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

***Рубрыку вядзе***

***Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

Пачатак італьянскага Адраджэння даў сусветнай паэзіі яшчэ аднаго вялікага паэта — Францэска Петрарку (1304—1374), лірычная спадчына якога таксама чакае свайго беларускага перакладчыка.

**Франчэска ПЕТРАРКА**

* * *

У песнях, што співаў я вам, ніколі
Не быў фальшывы нават лёгкі ўздых —
З часоў пакут кахання маладых,
Калі не думаў я аб лепшай долі.

Хай верш мой, што сваёй не здрадзіў ролі —
Пераадольваць крах надзей пустых,—
Цяпер заслужыць не папрокаў злых
Ад палкіх закаханых, а паталі.

Бо зразумеў я, што мяне народ
Даўно ўжо высмеяў. І сам я смешны
Сабе з-за вечнай марнай мітусні.

А вынік даўняй пыхі ды турбот —
Я каюся, зніштожаны і грэшны,
Бо ўсе зямныя ўцехі толькі сніў.

* * *

Як вечнае жыццё спазнае той,
Хто аднаго спрагнёны — бачыць Бога,
Я ад кароткага жыцця зямнога
Хацеў бы сціплай радасці адной —

Каб Вы, Мадонна, Вашаю красой
Далі мне ўцехі, хоць і не замнога:
Жадання не зракуся я такога
І буду жыць надзеяю сваёй.

Ды прамінецца ўсё; час — хуткаплынны:
Кагосьці пад блакітным нашым небам
Заўжды агонь жывіў, вада жывіла,

Кагосьці — дотык альбо пах расліны.
А мне нічога гэтага не трэба:
Што б засціць мне магло Ваш вобраз мілы?

* * *

Я жыў, не наракаючы на лёс,
І зайздрасць сэрца мне не працінала.
Хай іншы быў шчаслівейшы — німала
Не праліваў па тым я горкіх слёз.

Пагляд вачэй, што шмат пакут прынёс
Душы маёй, якая ўсё стрывала,—
Яго імгла навечна пахавала,
І болей ён не свеціць мне з нябёс.

Прырода-матухна, паказвала ты ўсім
І жорсткасць, і спагаду неадночы,
І несла згубу парасткам сваім.

Усё вытокам жывіцца адным —
Ды як дазволіў ты, нябесны Ойча,
Цябе вось так абрабаваць зусім?

**Пераклад з італьянскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

***Проза***

*(Заканчэнне. Пачатак у № 24).*

Двойчы гэта здарылася, і давялося скарыстаць каштоўныя запалкі, каб зноў распаліць вогнішча. Абодва разы яны супакойвалі адно аднаго, кажучы, што наступным разам яны пастараюцца так дбайна прыкрыць вогнішча, што яно не згасне.

Але прыйшоў дзень, калі яна перапыніла яго размову пра адзін з закончаных на той час раздзелаў.

— Ты ўжо даўно не пішаш нічога новага. З тае пары, як я ўпершыню прыйшла сюды.

Ён здзівіўся, што яна абарвала ход яго думкі, і зразумеў, што сказала яна праўду.

— Добра,— згадзіўся ён,— я сёння ж пачну новы раздзел.

— Я кахаю цябе,— сказала яна ў адказ.

Пачаць новы раздзел было не так проста. Папраўдзе, ён дык нават і не хацеў яго пачынаць. Яму так падабалася чытаць ужо закончаныя раздзелы!

Яна пачала настойваць на сваім, і, упершыню з таго дня, як раздзяліла ягоную адзіноту, ён пакінуў яе. Ён пайшоў на другі канец вострава і сядзеў на беразе, углядваючыся ўдалечыню. Праз нейкі час яна прыйшла і папрасіла ў яго прабачэння. Яна маліла прачытаць яшчэ раз закончаныя раздзелы, і пасля доўгіх угавораў ён абняў яе і дараваў.

Але потым яна зноў загаварыла пра гэта, а потым яшчэ і яшчэ раз, кожны раз усё больш настойліва, і дайшло да таго, што неяк ён агрызнуўся:

— Ды перастань ты мяне пілiць!

І яна разрыдалася.

Стала ўжо відавочным, што яны дзейнічаюць адно аднаму на нервы, больш таго, паступова ён пачаў заўважаць, што ўчынкі Дорын усё больш і больш нагадваюць яму маму — адзіную жанчыну, якую ён добра ведаў. Гэтаксама, як і мама, яна бачыла ў ім сваю ўласнасць, не пакідала яго ні на хвіліну, не давала яму магчымасці адасобіцца і спакойна падумаць. Апрача таго, яна была, як і мама, патрабавальная і няспынна настойвала, каб ён праявіў характар і прадоўжыў працу над кнігаю. Часам яму пачынала здавацца, што яна хоча, каб ён зноў стаў простым клеркам.

Сваркі перайшлі ў скандалы, і скончылася тым, што ён ударыў яе. Спачатку Дорын усё роўна як здранцвела, потым плакала, і ён прасіў прабачэння, цалаваў ёй рукі і тую шчаку, дзе на пяшчотнай скуры ярка гарэў след ягонай пяцярні, ласкава гладзіў, і яна супакоілася і пакорліва сказала, што даруе яму.

Але іх адносіны ўжо не маглі стаць ранейшымі. Дорын усё больш сварылася і надакучала і ўсё больш станавілася падобнай на маму. Нават знешне яна выглядала цяпер копіяй мамы ў маладосці. Асабліва нагадвалі маму вочы, пагляд якіх зацвярдзеў і страціў нябесны блакіт, і голас, такі ж высокі і рэзкі.

Ён пачаў замыкацца ў сабе, мог гадзінамі маўчаць, утойваючы ад яе свае думкі. Калі ж яна дазваляла сабе перашкаджаць яму думаць і ласкава, як раней, дакраналася да яго рукі ці, часцей, зноў заводзіла размову пра тое, што ён не працуе над кнігаю, то ён глядзеў на яе, як на нахабу, што лезе не ў сваю справу. Не тоячы злосці, ён пачынаў крычаць, патрабуючы пакінуць яго ў спакоі. Але пазбавіцца ад яе было немагчыма.

Хутчэй за ўсё ў адзін з такіх момантаў мільганула думка аб забойстве і, з'явіўшыся раз, ужо не выходзіла з ягонай галавы. Ён спрабаваў адагнаць яе, пераконваў сябе, што ён не здатны забіць, што ён усяго толькі бухгалтар, маленькі, слабахарактарны, ціхі і нерашучы чалавек.

Але гэта было не так, і ен ведаў гэта. Цяпер ён ужо сапраўдны шукальнік прыгод, марскі воўк, астраўлянін, якога лёс закінуў у самую сярэдзіну ціхаакіянскай прасторы, загарэлы і сухарлявы, на зайздрасць усім бедным і нікчэмным бухгалтарам ва ўсіх душных канторах свету. І ён — гэта ўжо Джым Кілбрайд ведаў дакладна — на забойства здатны.

***Дональд УЭСТЛЭЙК***

# ДРАМА НА ВОСТРАВЕ

***(Апавяданне)***

Дні і ночы ён праседжваў ля свайго маленькага вогнішча, узіраючыся ў язычкі полымя, і абдумваў забойства, у той час як Дорын, не здагадваючыся аб ягоных намерах, не ведаючы, што сваімі паводзінамі яна адно набліжае свой канец, працягвала назаляць яму і патрабавала ад яго заняцца кнігаю. Яна займела звычку сядаць побач ля вогнішча і атручваць яму жыццё пастаяннымі патрабаваннямі прынесці больш кары і галін, каб не даць агню зноў згаснуць, як ён гэта дапускаў ужо двойчы, і ў яго ўсё так і закіпала ўсярэдзіне ад несправядлівасці абвінавачванняў. Бо гэта ж штормы, а не ён, гасілі вогнішча.

— Але,— настойвала яна,— шторм не згасіў бы вогнішча, калі б ты больш клапаціўся аб ім.

Нарэшце, цярпенню ягонаму надышоў канец. У першыя шчасныя дні ўдваіх яны любілі купацца разам ля берага, не заплываючы далёка з-за боязі акул ды іншых небяспечных драпежнікаў. Ужо даўно яны не заходзілі ў ваду, і вось, неяк аднойчы, ён усё роўна як мімаходам, хітра прапанаваў схадзіць акунуцца.

Яна адразу ж згадзілася, і, скінуўшы адзежу, яны разам пабеглі да вады, дзе сталі плюхацца ды смяяцца, быццам усё яшчэ кахалі адно аднаго і адно аднаму радаваліся. Ён акунуў яе ў ваду з галавою, як часта гэта рабіў у добрыя старыя дні, і яна вынырнула, смеючыся і адфыркваючыся. Потым зрабіў гэта яшчэ раз, але гэтым разам утрымаў яе пад вадою.

Яна змагалася адчайна, але ягоныя мускулы даўно сталі дужымі і гнуткімі, і ён трымаў яе мёртвай хваткаю ўвесь час, пакуль яе спробы вырвацца не сталі слабець і потым не перапыніліся зусім. Тады ён адпусціў яе і глядзеў, як адліў зносіць мёртвае цела ў акіян, як гэтае пяшчотнае цела бязвольна пагойдваецца на хвалях, блакітныя вочы заплюшчаны, залацістыя валасы патанулі ў вадзе. Стомлена спатыкаючыся, ён выбраўся на бераг і зваліўся на пясок.

Цяпер ён быў адзін. Зусім адзін.

Першыя згрызоты сумлення ён адчуў ужо назаўтра. Яму згадаўся яе голас, яе твар і шчасце іх першых дзён разам. Ён сабраў і склаў у памяці абломкі ўсіх прычын іх бясконцых сварак і вылучыў усе выпадкі, калі праўда была не на ягоным баку. Стала відавочным, што ён быў несправядлівы да яе і заўсёды думаў толькі пра сябе. Яна хацела, каб ён закончыў кнігу, хацела не дзеля сябе — яна думала адно пра яго. Ён быў нястрыманы і грубы, і гэта ён вінаваты ў тым, што сваркі пачалі перарастаць у скандалы і што яны пачалі гідзіцца адно аднаго.

Ён падумаў пра тое, з якой радасцю згадзілася яна пайсці з ім купацца, і зразумеў, што яна ўспрыняла ягоную прапанову як крок да згоды.

Усе гэтыя думкі выклікалі ў ім пачуццё невыноснага сораму і раскаяння. Ва ўсім ягоным жыцці яна была адзінай жанчынаю, якая адказала на яго каханне і бачыла ў ім не проста маленькага бухгалтара, які гадамі гібеў над гросбухамі ў цеснай канторы, а ён забіў яе!

Ён шаптаў яе імя, але яна пайшла назаўсёды, яна памерла, і гэта ён — забойца яе!

Ён расцягнуўся на пяску і горка заплакаў.

Ішлі тыдні, і хоць яму жахліва не хапала яе, ён патроху скарыўся са стратаю. Ён адчуў, як нешта вельмі важнае і вельмі сумнае быццам перакуліла ягонае жыццё і назаўсёды змяніла яго. Сумленне яго пакутавала праз здзейсненае забойства, але пакута гэтая была салодкая.

Праз пяць месяцаў яго ўратавалі. З крутабокага шэрага парахода спусцілі шлюпку, якая падышла да вострава, і з дапамогаю матросаў ён няўклюдна ўзабраўся ў яе. Яму дапамаглі падняцца па вяровачнай лесвіцы на палубу, накармілі яго, паклалі спаць і, калі ён адпачыў, прывялі да капітана.

Невысокі сівы капітан у выгаралым на сонцы кіцелі паказаў яму на крэсла і запытаўся:

— Як доўга вы прабылі на востраве?

— Я не ведаю.

— Вы былі адзін?

— Не. Са мною была жанчына, Дорын Пальмэр.

— Дзе ж яна? — здзівіўся капітан.

— Яна памерла, — зарыдаў ён і расказаў усё, як было. — Мы біліся, псавалі адно аднаму нервы, і я забіў яе. Я ўтапіў яе, і цела знесла ў акіян.

Збянтэжаны, капітан паглядзеў на яго, не ведаючы, што сказаць ці зрабіць, і ў выніку вырашыў не рабіць нічога, а проста здаць чалавека ўладам па прыходзе ў Сіэтл.

У Сіэтле паліцэйскія выслухалі спачатку заяву капітана, а потым узяліся за Джыма Кілбрайда. Ён адразу ж прызнаўся ў забойстве, заявіўшы, што ўвесь гэты час ягонае сумленне пакутавала. Гаворка ягоная была звязная, лагічная, ён адказваў на ўсе пытанні, падрабязна апісваў сваё жыццё на востраве, злачынства, якое ён здзейсніў, і ніхто нават і не падумаў, што ён можа быць не зусім нармальным. Стэнаграфіст запісаў ягонае прызнанне, і ён падпісаў яго.

У турме яго наведалі старыя сябры па працы. Яны разглядвалі яго з цікавасцю і здзіўленнем. Выявілася, што па-сапраўднаму яго ніхто не ведаў. Ён усміхнуўся і прыняў як належнае іх зайздрасць.

На працэсе яго сумленна абараняў назначаны судом адвакат, і Кілбрайд быў прызнаны вінаватым у наўмысным забойстве. У судзе ён паводзіў сябе спакойна, годна, і ніхто не мог паверыць, што некалі гэты чалавек быў дробным клеркам. Яго прысудзілі да пакарання смерцю ў газавай камеры і належным чынам выканалі прысуд.

**Пераклаў з англійскай**
**Алесь АСТАШОНАК.**

